Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

TV плюс

5 – 11 мая 2000 года
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
Цана ў розніцу 68 рублёў

№ 18 (263)

Чытайце «РГ» у Internet: http://regionnews.promedia.minsk.by

## АДНА ЗЯМЛЯ

### НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ

| | Субота, 6 мая | | Нядзеля, 7 мая | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | +4 – +5°C | +7 – +8°C | +4°C | +8°C |
| Удзень | +7°C | +11°C | +6°C | +10°C |





*Віншуем калег з рэгіёна, работнікаў мясцовых аддзяленняў «Белсаюздруку», калектыў Маладзечанскай друкарні «Перамога» з Днём друку!*

*Поспехаў ва ўсім, стабільнай работы на радасць шматлікім чытачам.*

*«Рэгіянальная газета».*

## 9 мая — Дзень Перамогі

# Успомнім усіх паіменна

Мемарыял на месцы канцэнтрацыйнага лагера "Шталаг–342" з"явіўся на пяцідзесяцігоддзе Перамогі. Але яшчэ і сёння там ідуць работы. Эканамічны крызіс прычынай таму. Але больш важна тое, што не спыняліся работы па аднаўленні спісаў тых, хто тут загінуў падчас апошняй вайны. Гэтым займаецца з 1988 года **Аляксандр Ільіч Мазанік**. Ужо сёння даказана, што ў шталагу (па–нямецку – стацыянарным лагеры) з яго філіяламі ў Красным, Паставах і іншых месцах загінула больш за 60 тысяч чалавек. Ваеннапалонных і мірных грамадзян. Толькі ў Маладзечне – больш за 30 тысяч. Кожнай ахвяры фашызму трэба вярнуць імя. І кожны год у спісе з'яўляюцца новыя імёны.

Не менш важным лічыць для сябе Аляксандр Ільіч вяртанне справядлівасці – прызнанне вязнямі тых, хто прайшоў праз канцлагер і цудам застаўся жывы. У адной з папак з дакументамі ў А. Мазаніка падшытыя лісты ад былых вязняў або іх блізкіх. "Дапамажыце нам, змагайцеся за кожнага з нас, зусім невінаватых малалетак, за праўду да канца, – пісалі ў свой час сёстры Валянціна і Ірына Ражновы з Жодзіна і Гарадзеі. – Спадзяемся. Дзякуй за вашу работу. За вашу працу."



Аляксандр Мазанік напярэдадні 9-га мая на месцы канцлагера «Шталаг-342».

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

У адносінах да гэтых жанчын, якія прайшлі пекла вайны дзецьмі ў канцлагеры, праўда адноўленая. Як і ў адносінах да дзесяткаў іншых ахвяр. Аляксандра Мазаніка ведаюць ва ўсіх буйных архівах Расіі, Беларусі. Здавалася б, што трэба гэтаму немаладому чалавеку? Ён не быў вязнем гэтага канцлагера, ніхто з блізкіх тут не загінуў. Можа, адказ ў тым, што ён прайшоў вайну ад першага дня да апошняга на франтах і бачыў на вызваленых землях, што тым, хто застаўся на акупаваных землях, было нічуць не лягчэй, чым ім, франтавікам? Урэшце, не трэба шукаць адказу на гэта пытанне. Важней тое, што сёлета ў спісе Аляксандра Мазаніка на некалькі адноўленых прозвішчаў больш. Нехта з блізкіх даведаецца пра лёс бацькі, мацеры, сястры, брата...

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

МЯДЗЕЛ

## Мядзел атрымаў кіраўніка з Капыля

У сераду ў райвыканкоме прадставілі будучага старшыню – **Станіслава Чарнушэвіча**. Ахарактарызавалі яго як выхаванага, арганізаванага, паважлівага, мэтанакіраванага чалавека.

Мае педагагічную адукацыю – заканчваў інстытут замежных моў. Працаваў і дырэктарам школы, і ў генконсульстве СССР у Манголіі. Апошнім часам быў намеснікам старшыні Капыльскага райвыканкома і кіраваў тамтэйшым кінавідэапракатам.

Сам Станіслаў Чарнушэвіч сказаў, што не збіраецца нічога ламаць і крышыць, патрабуе парадку і дысцыпліны і гарантуе павагу для кожнага. Да зацвярджэння ў Мінску ён пакуль лічыцца выконваючым абавязкі старшыні райвыканкома.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

МАЛАДЗЕЧНА

## Зноў з'явяцца дамавыя камітэты

З мэтай добраўпарадкавання гарадскіх тэрыторый на сесіі гарсавета дэпутаты зацвердзілі план пад назвай "Мой горад – мой дом". Асноўную ролю ва ўзнаўленні горада плануецца даручыць дамавым камітэтам, якія павінны быць створаныя да 15 мая.

**Аддзел інфармацыі.**

МЯДЗЕЛ

## Банк пашырае спектр паслуг

Змяніла прапіску аддзяленне "Беларусбанка" у курортным пасёлку Нарач. Пераехала яно ў новы дыхтоўны двухпавярховы катэдж з усімі прыкметамі еўрарамонту.

Але банкаўскія аперацыі праводзяцца толькі на першым паверсе, на другім неўзабаве адкрыецца міні–гасцініца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АСТРАВЕЦ

## Астраўчане маюць права на стадыён

На мясцовым стадыёне прайшоў інфармацыйна–прапагандысцкі пікет "Маю права".

Паколькі спартыўнае збудаванне далёка не люднае месца, гэта і з'явілася, бадай, асноўнай прычынай, што ў пікеце ўдзельнічала няшмат народу. Але былі людзі не толькі з мястэчка, але з раёна і суседніх Ашмянаў. Прысутнічалі на пікеце прадстаўнікі міліцыі і КДБ. Ад мясцовай улады быў толькі старшыня пасялковага савета **Часлаў Петрусевіч**.

Адзін з арганізатараў пікета, **Іван Крук**, запэўніў прысутных, што і надалей для астраўчан будуць праводзіцца разнастайныя мерапрыемствы падобнага характару.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

ВІЛЕЙКА

## У Вілейцы праблемы з аналізам крыві

У райбальніцы і паліклініцы абмежаваныя некаторыя працэдуры, у прыватнасці, аналіз крыві. Прычына банальная: не хапае спірту. Акрамя гэтага, у дэфіцыце перавязачны матэрыял, некаторыя медыцынскія прэпараты. Таму аналізы робяць толькі па крайняй неабходнасці.

Колькі гэта будзе працягвацца, ніхто не ведае.

**Святлана ТАПАЛЬКОВА.**

ПЕРШАМАЙ

## 1 мая губляе значэнне свята

МАЛАДЗЕЧНА. Насуперак традыцыі, якая склалася яшчэ ў савецкія часы, Першамай-2000 не быў адзначаны шэсцем, мітынгам або дэманстрацыяй. Напамінкам пра свята былі хіба што сцяжкі, што віселі на ліхтарных слупах уздоўж цэнтральных вуліц горада (Вялікі Гасцінец, імя Прытыцкага), а таксама на Цэнтральнай плошчы.

Раніцай у вочы кідалася вялікая колькасць асоб нападпітку, якія, напэўна, не "адышлі" пасля Вялікадня, або ўжо паспелі адзначыць Першамай.

Адзіным грамадскім мерапрыемствам, прысвечаным святу, стаў, мусіць, канцэрт у парку, які пачаўся а 12-й гадзіне. Свае майстэрства на сцэне паказвалі выхаванцы харэаграфічнай і цыркавой студый, а таксама эстраднай студыі "Жывы гук" і вучні САШМ. Але гледачоў прыйшло няшмат – каля двухсот чалавек (большасць – сярэдняга ўзросту), якія ўсё ж рашыліся адзначыць свята ў парку, нягледзячы на пахаладанне.

Для многіх 1 Мая страціла значэнне свята, гэта проста магчымасць вырашыць свае праблемы, у тым ліку, і садова–агародныя.

А некалькі дзесяткаў чалавек рашылі адзначыць гэты дзень па–свойму – прабегам. Першага мая каля будынка палітэхнікума адбылося адкрыццё традыцыйнага маладзечанскага марафону.

**Алег ГАРУНОВІЧ.**

ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## – Што для вас азначае дзень 9 мая?



***Ларыса Сысун**, загадчык аддзела маркетынгу і рэкламы гарадской бібліятэкі:*

– Раней было іншае ўяўленне пра гэтае свята. У дзяцінстве я жыла ва Унечы. На Дзень Перамогі мы ішлі на магілкі. Ішлі з вянкамі, стамляліся (трэба было ісці 5 кіламетраў), але гэта рабілася на энтузіязме.

Цяпер свята адыходзіць у нябыт, моладзь успрымае яго інакш.

9 мая я паеду да сябе на радзіму, наведаю магілы родных.



***Дзяніс Мацуцын**, вучань 8 "А" класа СШ №9:*

– Дзень Перамогі з'яўляецца святам усіх тых, хто прайшоў Другую Сусветную вайну.

9 мая наш клас віншуе ветэранаў гэтай вайны, якія замацаваныя за класам: дорым кветкі, гаворым словы падзякі.

Сёлета 9 мая збіраюся праводзіць звычайна: пасля наведвання ветэранаў будзем гуляць у футбол і баскетбол.



***Марына Шацёр**, метадыст дзіцячага садка №20:*

Для мяне 9 мая – гэта, у першую чаргу, Дзень Перамогі. Узнікаюць асацыяцыі з пераможнай вайной.

У нашым садку мы да гэтага свята запрашаем у госці ветэранаў, 9 мая ідзем ускласці кветкі да помніка, робім выстаўку дзіцячых работ, прысвечаных гэтай падзеі.

***Сяргей Шарамет**, навучэнец ПТВ–21, 1 курс:*

– 9 мая – дзень Перамогі над фашыстамі, наш народ аказаўся мацнейшы, ён вельмі адважны і перамогу атрымаў, дзякуючы гэтым якасцям. З блізкіх сваякоў ніхто не ваяваў: дзядулі ў 1945 годзе споўнілася толькі 8 гадоў.

У гэты дзень мы з сябрамі ходзім у парк, слухаем канцэрт ветэранаў. Не будзе выключэннем і гэты год.



***Таццяна Мурычына**, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце, беларуская гімназія:*

– У першую чаргу, гэта настальгія па светлых для мяне часах. Гэтае свята было звязана з блізкай раднёй: дзядулямі і бабулямі.

Асабіста я гэты дзень праводжу на рабоце. Буду ўдзельнічаць у парадзе–шэсці, прысвечаным 55–годдзю Перамогі.

ФОТААПЫТАННЕ ПРАВЕЎ ЮРЫЙ КАРПІЦКІ.

